



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

26 чэрвеня 2015 года №26 **(1052)**




**Няма прадпрыемства без праблем у ахове працы**

старонка 2



**Рамству навучыла жонка, ці Паспрачаўся на каньяк**

старонка 6



**Аўтаспыншчыца: "Жыццё і ёсць дарога, стаяць на месцы – злачынства"**

старонка 22

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### "Адна зямля" пройдзе 27 чэрвеня

АШМЯНЫ

Выканаўцы эстраднай песні збяруцца ў суботу ў Ашмянах, каб пазмагацца ў сілах. Урачыстае адкрыццё адбудзецца апоўдні на пляцоўцы "Гарадскі парк". Да 15:00 выступяць удзельнікі першай і другой узроставых груп. Да 15:40 пройдзе канцэрт і паказ мадэляў Ашмянскага цэнтра творчасці. Да 18 гадзін будуць выступаць выканаўцы трэцяй і чацвертай узроставых груп. Ад 18:10 да 19:30 будзе канцэрт народнага тэатра "Імпульс". Ад 19:30 да 20:00 – падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў. Пасля канцэрт эстраднага ансамбля з Ліды. А ад 22 да 4 раніцы ў раённым цэнтры культуры пройдзе начная дыскатэка "Арбіта".

### Пілігрымы ўжо рушылі ў Будслаў

МЯДЗЕЛ

Першай выйшла 18 чэрвеня пешая пілігрымка Брэст-Баранавічы-Будслаў. Яна ўключае 16 дзён шляху. Пілігрымы пераадолеюць адлегласць у 537 кіламетраў, паведамляе catholic.by. Сёлета ўрачыстасці ў Будславе пройдуць 3-4 ліпеня.

### Паказваюць здымкі слядоў Першай сусветнай

ВІЛЕЙКА

Ад 23 чэрвеня пачалася выстава фотаздымкаў **Андрэя Мацура** "Нябачныя помнікі Вялікай вайны". Праходзіць яна ў зале выстаў імя Сілівановіча. На здымках можна пабачыць помнікі і месцы, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай вайны. Выставу можна наведаць да 8 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**



# Былога дырэктара Вілейскага лясгаса асудзілі за крадзеж

ВІЛЕЙКА

**Па просьбе вышэйстаячага кіраўніка ён скраў са свайго прадпрыемства абшывачныя дошкі "блок-хаўс".**



Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

Лесанарыхтоўкі ля Борак. Фота 2013 года.

Прыгавор суда Вілейскага раёна, паводле якога **Павел Касяк** прызнаны вінаватым, уступіў у законную сілу. Яго прызналі вінаватым у крадзяжы ў буйным памеры праз злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

Пра гэта паведаміў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка**.

Касяк працаваў дырэктарам Вілейскага доследнага лясгаса. У канцы 2011 года ён выканаў асабістую просьбу вышэйстаячага кіраўніка, які папрасіў вырабіць для свайго знаёмага абшывачныя дошкі "блок-хаўс". За гэта начальнік абяцаў заплаціць.

Касяк скраў з прадпрыемства, якім кіраваў, матэрыялы на суму, якая ў 541 раз перавышала тагачасную базавую велічыню. Гэта амаль 19 мільёнаў рублёў, што прыкладна роўна 2,2 тысячы долараў па курсе таго часу.

Прыгаворам ён асуджаны да пазбаўлення свабоды на тры гады шэсць месяцаў з канфіскацыяй усёй рухомай і нерухомай маёмасці з пазбаўленнем права займаць кіруючыя пасады пяць год.

Пазбаўленне свабоды адтэрмінавалі на тры гады. У гэты час яму забаронена мяняць месца жыхарства без дазволу. Асуджаны перыядычна мусіць з'яўляцца на рэгістрацыю ў аддзел унутраных спраў па месцы жыхарства.

Віктар Гатоўка падкрэслівае, што праваахоўныя органы пастаянна працуюць, каб знаходзіць і паспяхова[?] карупцыйныя злачынствы. Намеснік пракурора адзначае, што барацьба з карупцыяй – найважнейшая дзяржаўная задача.

"Рэгіянальная газета" ў мінулым звярталася да тэмы работы лясгаса. Адна з такіх публікацый была ў 2013 годзе, дзе гаварылася аб варварскай высечцы лесу паблізу спаленай фашыстамі вёскі Боркі ў Вілейскім раёне.

Павел Касяк тады не пагадзіўся з ацэнкай дзеяннаў арганізацыі, якой ён кіраваў. У публікацыі за подпісам адміністрацыі Вілейскага доследнага лясгаса ў адказ аўтару **Алесю Раткевічу**, у прыватнасці, было напісана: "Гісторыя ведае такіх дзеячаў, якія, прыкрываючыся жаданнем дапамагчы людзям, рабілі ўсё, ды і робяць, каб апаганіць уладу, дзяржаўныя органы і дамагчыся асабістай выгады".

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Наталлі ТУР.

Дзяніс Томашаў, начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы.

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Няма прадпрыемства без праблем у ахове працы

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

**Так лічыць начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Дзяніс Томашаў.**

– Мы рэгулярна правяраем небяспечныя аб'екты, і ў 100% выпадкаў ёсць недахопы. Вядома, большасць з іх можна выправіць адразу на месцы. Напрыклад, каску надзець ці страхавачны пояс.

Дзяніс Мікалаевіч тлумачыць, што няшчасныя выпадкі на вытворчасці здараюцца якраз ад таго, што асобы, адказныя за арганізацыю працы, ігнаруюць патрабаванні тэхнікі бяспекі. І толькі ў 20% выпадкаў вінаваты той, хто работу выконвае.

Выпадак у бібліятэцы, калі з даху падчас яго рамонту ўпаў рабочы, сёлета ўжо шосты на Маладзечаншчыне. За першае паўгоддзе 2014 года цяжкія траўмы атрымалі пяцёра рабочых. Двое атрымалі траўмы, якія прывялі да гібелі.

Летась тынкоўшчык маладзечанскай будаўнічай арганізацыі на будаўніцтве жылога дома ў вёсцы Бараўляны зваліўся з 1,5-метровай вышыні і загінуў. Пры высвятленні абставін гібелі стала вядома, што на вышыні, дзе праводзіліся работы, адсутнічала агароджа. І сам рабочы знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

**Летась з дзевяці цяжкатраўмаваных толькі адзін знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. У 11 смяротных выпадкаў пяцёра рабочых былі п'янымі.**

У 2014 годзе ў Валожынскім раёне адбыўся выпадак, калі на прадпрыемстве загінуў 15-гадовы падлетак.

Здарэнне адбылося ў Багданаве. Кіраўніцтва акцыянернага таварыства "Багданаўскае" прыняло на работу непаўналетняга хлопчыка рознарабочым. У яго абавязкі ўваходзіла рыдлёўкай прыбіраць гной з фермы. Гной паступаў на транспарцёр. У той злашчасны дзень ланцуг з транспарцёра зваліўся. Хлопчык палез чапляць ланцуг, хаця ён не павінны быў гэтага рабіць, і загінуў.

Год таму на прадпрыемстве "Новая Любанія" ў Вілейскім раёне адбыўся выпадак групавой смерці на вытворчасці. Тады загінулі двое рабочых, якія рамантавалі дах склада. Яны ўпалі з 8-метровай вышыні. Адзін загінуў на месцы, другі – праз тры дні ў бальніцы. Вінаватымі прызналі асоб, якія дапусцілі да працы гэтых мужчын.

– Наколькі мне вядома, – кажа Дзяніс Томашаў, – суд па гэтай справе ўсё яшчэ працягваецца.

Інспекцыя працы рэгулярна дасылае пісьмы на прадпрыемствы, дзе адбыўся няшчасны выпадак.

– Мы просім звольніць асобу, па віне якой адбыўся няшчасны выпадак. Калі раней кіраўнікі прадпрыемстваў ішлі на розныя хітрасці, каб пазбегнуць гэтага, то цяпер такое не пройдзе.

Сёлета на дрэваапрацоўчым заводзе "Забудова" ўтаілі няшчасны выпадак.

Тады рабочы прадпрыемства параніў пілой руку. Калі яго даставілі ў бальніцу, ён сказаў, што гэту траўму атрымаў дома. Тое ж адказалі і на "Забудове". Аднак праз некаторы час аказалася, што нехта напісаў на сайт генеральнай пракуратуры скаргу, у якой, акрамя асноўнай прэтэнзіі, сказаў, што на прадпрыемстве быў выпадак траўмавання. Давялося разабрацца, аказалася, што насамрэч чалавек параніўся на рабоце.

Акрамя таго, удакладніў Дзяніс Томашаў, ім рэгулярна прыходзяць спісы з бальніцы і паліклінікі, у якіх указаныя ўсе людзі, хто паступаў у бальніцу з траўмамі.

Падсумоўваючы размову, начальнік інспекцыі міжраённага аддзела інспекцыі працы падкрэсліў, што ўтойваць парушэнні не трэба. Проста трэба берагчы сябе і сваіх работнікаў.

**Наталля ТУР.**

**Здарэнні на вытворчасці ў 2015 годзе**

| Раён | Цяжкія траўмы | Смяротныя выпадкі |
|---|---|---|
| Маладзечна | 6 | 0 |
| Вілейка | 2 | 1 |
| Валожын | 1 | 0 |
| Мядзел | 1 | 0 |

**Удакладненне**

У №25 "Рэгіянальнай газеты" ад 19 чэрвеня ў якасці ілюстрацыі да матэрыялу " З даху маладзечанскай бібліятэкі ўпаў рабочы" выкарыстаны фотаздымак рабочага, які працуе на рамонце будынка суда. Рамонт вядзе арганізацыя, якая да ПМК-212 дачынення не мае.

ПАМЯЦЬ



Фота з архіва Яўгеніі ЧАПЛІНСКАЙ.

## Пайшоў з жыцця жаўнер арміі Андэрса ўраджэнец Валожына Мікалай Махнач

ВАЛОЖЫН

**Яго не стала 6 чэрвеня, паведаміла яго былая аднакласніца з вёскі Літва Яўгенія Чаплінская. Яму быў 91 год.**

Тэлеграму з такім паведамленнем прыслала ў Беларусь сястра Мікалая **Валянціна**, якая жыве ў Малдове.

Ён вядомы нашаму чытачу з успамінаў пра тое, як у 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родны Валожын і больш туды ўжо не вярнуўся. Яго чакаў пакручасты шлях праз Карэлію, Архангельскую вобласць, Волагду, Ташкент, Іран, Ірак, Палесціну, Ліван, Італію, Англію. Мікалай жыў у ЗША, двойчы прыязджаў на сустрэчу са сваякамі ў Польшчу.

Яго ўспаміны "РГ" друкавала ў 2013 годзе. Іх можна цяпер прачытаць на сайце rh.by.

Мікалай Махнач быў вельмі ўсцешаны, што гісторыю яго лёсу, праўдзівую гісторыю, на старонках газеты могуць чытаць яго землякі. Каб падзякаваць, ён даслаў у рэдакцыю ліст і званіў, каб асабіста аддзячыць.

Сёлета "РГ" закончыла друкаваць успаміны Валянціны Махнач, яго сястры. Яна распавяла, як перажыла разам з мамай вайну ў Валожыне, як чакалі брата, і як, нарэшце, змагла з ім сустрэцца пасля доўгай разлукі.

Калектыў рэдакцыі "РГ" шчыра смуткуе з прычыны смерці Мікалая Махнача і спачувае Валянціне, а таксама родным і блізкім яе брата. Спадзяёмся, што іх шчырыя і кранальныя гісторыі захаваюць памяць пра сям'ю Махнач з Валожына, а таксама застануцца арыенцірам для тых, хто хоча ведаць гісторыю 30-50 гадоў са слоў сведкаў таго часу.

**Рэдакцыя "РГ".**

ПАСАДЫ

## На Мядзельшчыне прызначылі першага намесніка старшыні райвыканкама

МЯДЗЕЛ

Ад 17 чэрвеня перастала быць вакантнай пасада першага намесніка старшыні райвыканкама, начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. Ім прызначаны **Уладзімір Валасевіч.**

Работа гэта яму не ў навіну, раней ён працаваў ужо на гэтай пасадзе. Апошнія чатыры гады кіраваў Мядзельскай ЖКГ.

Нарадзіўся Уладзімір Валасевіч у 1952 годзе на Мядзельшчыне. Мае вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці аграномія.

**Аддзел інфармацыі.**

● МЫТНЯ

# Сабраліся ў адпачынак за мяжу? Мытнікі раяць

**Пачынаецца сезон адпачынкаў. Многія едуць за мяжу. Якія правілы перамяшчэння тавараў праз мяжу Мытнага саюза?**




Архіў "РГ".

**Перамяшчэнне тавараў для асабістага карыстання рэгулюецца адпаведным пагадненнем краін-удзельніц Мытнага саюза, прынятым у 2010 годзе.**

## Калі перавышаецца норма

Без выплаты мытных пошлін, падаткаў фізічныя асобы могуць увозіць тавары (за выключэннем транспартных сродкаў), агульны кошт якіх не перавышае суму, эквівалентную 1500 еўра і агульная вага якіх не перавышае 50 кг (пры перамяшчэнні паветраным транспартам – 10000 еўра, 50 кг). Калі гэтыя нормы перавышаныя, то ў частцы такога перавышэння прымяняецца адзіная стаўка мытных пошлін, падаткаў у памеры 30% мытнага кошту названых тавараў, але не менш за 4 еўра за 1 кг.

У выпадку калі фізічная асоба часта перасякае мытную мяжу і заўсёды мае пры сабе ноўтбукі, фота- і відэатэхніку, планшэты, музычныя інструменты і іншыя дарагія прадметы, заўсёды існуе магчымасць пры выездзе падаць пасажырскую мытную дэкларацыю, якая пры вяртанні дадому будзе сведчыць аб тым, што такія тавары раней вывозіліся, а не былі набытыя ў іншай дзяржаве.

## Не выкідайце касавыя чэкі

Акрамя таго, асобам, якія набываюць дарагія прадметы адзення і побыту, мытныя органы рэкамендуюць не выкідваць і не знішчаць касавыя чэкі, а таксама любыя аплатныя дакументы, якія пацвярджаюць набыццё тавараў. Гэта дазволіць хутка і эфектыўна прайсці мытны кантроль і не выкліча канфліктных сітуацый з мытнымі органамі па вяртанні дадому.

## Алкаголь і тытунь

Без выплаты мытных плацяжоў дапускаецца перамяшчаць не больш за тры літры ў разліку на адну фізічную асобу, якая дасягнула 18-гадовага ўзросту. У выпадку перавышэння (ад 3 да 5 літраў уключна) мытныя пошліны збіраюцца па адзінай стаўцы 10 еўра за 1 літр у частцы перавышэння колькаснай нормы тры літры. Больш за пяць літраў алкаголю фізічная асоба перавезці не можа.

Норма бяспошліннага ўвозу тытуню і тытунёвых вырабаў складае не больш за 200 цыгарэт або 50 цыгар (цыгарыл), або 250 г тытуню, або названыя вырабы ў асартыменце агульнай вагой не больш за 250 г у разліку на адну фізічную асобу, якая дасягнула 18-гадовага ўзросту.

## Наяўныя грошы

На перамяшчэнне фізічнымі асобамі замежнай валюты праз мытную мяжу Мытнага саюза абмежаванняў не ўстаноўлена. Але разам з тым наяўныя грашовыя сродкі і (або) дарожныя чэкі на агульную суму, якая перавышае ў эквіваленце 10 000 долараў ЗША, што перамяшчаюцца праз мытную мяжу, падлягаюць абавязковаму дэклараванню ў пісьмовай форме шляхам падачы пасажырскай мытнай дэкларацыі на ўсю суму наяўных грашовых сродкаў і (або) дарожных чэкаў.

## Каштоўныя металы і камяні

Іх вываз дапускаецца ў парадку, прадугледжаным для асабістага карыстання, толькі калі іх кошт не перавышае 25 000 долараў ЗША. Пры гэтым у мытны кошт каштоўных металаў і каштоўных камянёў, што вывозяцца, не ўключаецца кошт раней увезеных фізічнымі асобамі ў Мытны саюз, а таксама каштоўных металаў і каштоўных камянёў, якія часова вывозяцца з Мытнага саюза.

Якія тавары могуць быць аднесеныя да тавараў для асабістага карыстання? На сайце Дзяржаўнага мытнага камітэта ёсць метадычныя рэкамендацыі, дзе ўказваецца прызначэнне тавараў, што перамяшчаюць фізічныя асобы.

Заўсёды ўлічвайце, што краіны Еўрасаюза, Егіпет, Турцыя, Балгарыя і іншыя дзяржавы могуць устанаўліваць абмежаванні, якія адрозніваюцца ад тых, якія ўстаноўленыя краінамі Мытнага саюза.

**Падрыхтавана аддзелам мытнага кантролю Мінскай рэгіянальнай мытні.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**



## Больш, чым у 2 разы

вырасла забяспечанасць кватэрнымі тэлефонамі ў вёсках Гродзенскай і Мінскай абласцей за 10 год

| Гродзенская | Мінская |
|---|---|
| **2014** | |
| 442 | 405 |
| **2004** | |
| 188 | 190 |

* на 1000 жыхароў

Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 18.06 руб. | 25.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 15 461,00 | **15 378,00** |
| Еўра | 17 421,00 | **17 248,00** |
| Злоты | 4 181,44 | **4 151,51** |
| Расійскі рубель | 285,50 | **284,23** |
| Грыўня | 701,00 | **710,25** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 24.06** | | |
| Еўра | 17280/17550 | **17150/17400** |
| Долар ЗША | 15370/15550 | **15300/15480** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 17.06 | 24.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 54950 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 27800 | **28700** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80000 | **70000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37300 | **37800** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **48000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 11700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18500 | **18500** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11500 | **11900** |
| Капуста, 1 кг | 8500 | **7900** |
| Морква, 1 кг | 19500 | **19900** |
| Буракі, 1 кг | 16000 | **17500** |
| Лімоны, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Апельсіны, 1 кг | 18500 | **17900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 32000 | **32000** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **39500** |
| Нектарыны, 1 кг | 46500 | **34500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 39900 | **25000** |
| Клубніцы, 1 кг | 25000 | **23000** |
| Чарэшні, 1 кг | 43000 | **35000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 6900 | **7000** |
| Перац, 1 кг | 45000 | **46500** |
| Вінаград, 1 кг | 35000 | **35000** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **17500** |
| Яблыкі, 1 кг | 15900 | **15900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29500 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 60000 | **55000** |

---

# Будзьце ўважлівыя пры правядзенні земляных работ у зоне падземных газаправодаў

**Пачасціліся выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў пры выкананні будаўнічых і земляных работ. У выніку адключаюцца спажыўцы ад газазабеспячэння, наносіцца матэрыяльная шкода, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю насельніцтва, працуючага персаналу.**

Пры правядзенні земляных работ па пракладцы каналізацыі да індывідуальнага жылога дома ў Гродне машыніст экскаватара СПМК-66 пашкодзіў стальны падземны газаправод. На перыяд правядзення рамонтных работ былі адключаныя ад газазабеспячэння 385 індывідуальных жылых дамоў. Земляныя работы праводзіліся па заказе прыватнай асобы без атрымання дазволу ад газазабеспячэнцкай арганізацыі. Размер нанесенай шкоды склаў 17 129 595 рублёў. Пакрыццё ўскладзенае на прыватную асобу, афармлены пратакол на прыцягненне яе да адміністрацыйнай адказнасці.

**Згодна з "Палажэннем** аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб'ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, размерах і рэжыме іх выкарыстання", зацверджанага пастановай Савета Міністраў РБ ад 6.11.2007 №1474, звяртаем увагу ўсіх арганізацый і грамадзян, якія праводзяць земляныя работы паблізу ахоўных зон падземных газаправодаў, што яны абавязаныя да пачатку выканання работ узгадніць у міжраённым вытворчым упраўленні "Маладзечнаміжрайгаз" умовы і парадак бяспечнага правядзення такіх работ і прыняць адпаведныя меры, якія забяспечваюць захаванасць газаправодаў.

**Земляныя работы ў ахоўнай зоне** газаправодаў павінны праводзіцца толькі пасля атрымання адпаведнага дазволу ў МВУ "Маладзечнаміжрайгаз". Да дазволу павінны быць прыкладзены план (схема) з указаннем размяшчэння і глыбіні закладкі газаправода. Пры гэтым выканальнік работ павінны забяспечыць нагляд за захаванасцю газаправода на ўвесь перыяд работ.

**Перад пачаткам раскопак** для ўдакладнення размяшчэння газаправода і глыбіні залягання выканаўцам работ павінна быць праведзенае шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправода пад наглядам прадстаўніка МВУ "Маладзечнаміжрайгаз".

**Пры парушэнні патрабаванняў** правілаў аховы газаправодаў і пашкоджанні газаправодаў работы, якія выконваюцца арганізацыямі, спыняюцца, а ўся адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам ускладаецца на арганізацыю і яе кіраўніка і цягне накладанне штрафу на юрыдычную асобу. Аплата штрафу не вызваляе вінаватых ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

МВУ "Маладзечнаміжрайгаз".
УНП 100 008 077.

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Прайшоў суд па аварыі, дзе загінуў міліцыянер

ВІЛЕЙКА

**Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 3 лютага каля паловы дзявятай вечара ў Вілейцы.**



Фота av.by.

Кветкі на месцы аварыі пасля здарэння.

У выніку сутыкнення аўтамабіля "Кіа-Шума" з мікрааўтобусам "Газель" загінуў малады супрацоўнік Вілейскага райаддзела ўнутраных спраў.

Суд Вілейскага раёна 18 чэрвеня прызнаў 22-гадовага мужчыну вінаватым ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай 4 артыкулу 317 Крымінальнага кодэкса Беларусі (парушэнне правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, што прывяло па неасцярожнасці да смерці чалавека).

Прысуд – пазбаўленне волі тэрмінам на шэсць год шэсць месяцаў з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення, з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем усімі відамі транспартных сродкаў тэрмінам на 5 год.

Акрамя таго, абвінавачаны павінны выплаціць матэрыяльную шкоду на карысць жонкі загінулага ў памеры 300 мільёнаў рублёў і столькі ж на карысць яго малалетняга сына.

Прысуд можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым законам парадку.

**Таццяна ТКАЧОВА,**
**прэс-сакратар суда Вілейскага раёна.**

ЗДАРЭННІ

## На Вілейшчыне муж пасля сваркі падпаліў дом з малымі дзецьмі

ВІЛЕЙКА

Удзень 17 чэрвеня ў міліцыю з Балашоў звярнулася жыхарка, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Паведаміла, што 22-гадовы муж падпаліў дом з двума малымі дзецьмі.

На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група. Праваахоўнікі ўстанавілі, што паміж мужам і жонкай адбылася сварка, пасля якой мужчына выклікаў жанчыну на вуліцу, абліў вугал дома бензінам і падпаліў.

Потым мужчына затушыў агонь, паведаміў намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. Пацярпелых няма.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адбылося ДТЗ з-за таго, што кіроўцу стала дрэнна

ВАЛОЖЫН

19 чэрвеня на 43 кіламетры дарогі Мінск-Гродна адбылося дарожна-транспартнае здарэнне.

Кіроўцу стала дрэнна, і грузавы аўтапоезд з'ехаў у кювет. Кіроўца памёр ад сардэчна-сасудзістай недастатковасці. Іншыя людзі не пацярпелі.

Следчы **Аляксандр Шульга** нагадвае, што лепш не садзіцца за руль, калі вам нездаровіцца.

**Галіна СІНІЦА.**

## Жыхарка Валожыншчыны за два тыдні скрала два кашалькі

ВАЛОЖЫН

Скрадзеная сума склала два мільны рублёў, за што вінаватая і атрымала два гады абмежавання волі.

Пра падрабязнасці справы расказвае старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

Жыла ў Мінску 48-гадовая жанчына, ужывала спіртныя напоі. Надакучыла яна сваякам і сказалі тыя ёй:

– Ёсць у цябе на Валожыншчыне, у Крапіўніках, невялічкі домік. Ён табе застаўся ад бацькоў, едзь туды і жыві.

І ў пачатку красавіка жанчына перабралася ў Крапіўнікі.

У пачатку мая пайшла да суседзяў папрасіць цыгарэтку, заўважыла на стале кашалёк, не стрымалася і скрала яго. У кашальку было каля мільёна рублёў.

Жанчыну прызналі вінаватай. Следчы камітэт 15 мая перанакіраваў яе справу ў суд.

17 мая жанчына зайшла яшчэ да адных суседзяў. І там аказалася, што кашалёк з 50 доларамі і 400 тысячамі ляжыць на стале. Не стрымалася і зноў чужыя грошы прысабечыла.

Раней жанчына была несудзімая. Цяпер жа будзе адбываць у тых жа Крапіўніках пакаранне – два гады абмежавання волі.

**Наталля ТУР.**

## Была пагоня, якая доўжылася гадзіну

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 19 чэрвеня. Супрацоўнікі дарожна-патрульнай службы спынялі кіроўцу "Шкоды". А машына павялічыла хуткасць. Пачалося праследаванне.

Кіроўца ігнараваў патрабаванні міліцыянераў спыніцца, павялічваў хуткасць, ствараў небяспечныя сітуацыі на дарозе.

Праследаванне доўжылася каля гадзіны. Каб перашкодзіць кіроўцу заехаць у Шчучын, інспектары прымянілі спецыяльны сродак "Вожык". Кіроўца не справіўся з кіраваннем і вылецеў у кювет.

45-гадовы жыхар Белаазёрска меў стаж кіроўцы дзесяць гадоў, чатыры разы яго прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці. Ён ехаў без правоў.

**Паводле auto.tut.by.**

## У Вілейцы згарэў хлеў

ВІЛЕЙКА

Пасля 22 гадзін 18 чэрвеня выратавальнікам паступіла паведамленне, што гарыць хлеў у Вілейцы па вуліцы Савецкай. Паведамілі самі гаспадары.

Па прыбыцці выратавальнікаў дашчаны хлеў гарэў адкрытым полымем, расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук**.

У выніку хлеў выгараў усярэдзіне, знішчаны дах. Унутры нічога каштоўнага не было.

**Аддзел інфармацыі.**

## На выхадных пройдзе акцыя "Цвярозы кіроўца"

Ад 27 да 29 чэрвеня дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці праводзіць прафілактычную акцыю "Цвярозы кіроўца".

Калі вы бачыце, што транспартам кіруе нецвярозы, калі ласка, паведаміце па тэлефоне: **(80176) 77-16-56**.

За пяць месяцаў гэтага года больш за 11% аварый здзейснілі п'яныя кіроўцы. У іх загінулі чатыры чалавекі, 42 параненых.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ,**
**начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага райаддзела міліцыі, падпалкоўнік міліцыі.**

ЗДАРЭННІ

## У Астраўцы падчас спрэчкі жонка ўсадзіла мужу нож у жывот

АСТРАВЕЦ

Вечарам муж і жонка выпівалі. Бліжэй да ночы жанчына вырашыла адпачыць у суседнім пакоі і адсутнічала каля гадзіны.

Мужчына не зразумеў, дзе жонка. Калі яна вярнулася – абвінавацію ў здрадзе. Падчас спрэчкі яна ўсадзіла нож яму ў жывот.

Па дапамогу пацярпелы звярнуўся, калі яму стала вельмі дрэнна. У бальніцы паведамілі пра здарэнне ў міліцыю.

Узбуджаная крымінальная справа.

Пра здарэнне расказала старшы інспектар Астравецкага РАУС маёр міліцыі **Ірына Віткевіч**.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Скралі рэчы прадпрымальніка

ВАЛОЖЫН

Ад 1 да 3 мая з жылога дома ў Вайганах невядомы скраў чамадан з рэчамі прадпрымальніка – **Гасціловіча Ю.В.**

У чамадане было пасведчанне аб рэгістрацыі, пячатка. Зламыснік можа скарыстаць іх у сваіх мэтах, будзьце пільныя.

Узбудзілі крымінальную справу.

Калі вы нешта ведаеце пра гэта здарэнне, паведаміце ў Валожынскі раённы аддзел Следчага камітэта па наступным нумары тэлефона: **(801772) 55131**.

Пра здарэнне расказаў следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Уладзімір Падарэцкі**.

**Галіна СІНІЦА.**

## На Маладзечаншчыне знайшлі саломку, на Мядзельшчыне – марыхуану

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

У вёсцы Крыніца Маладзечанскага раёна 8 чэрвеня затрымалі неаднаразова судзімага 34-гадовага жыхара Мінска. У аўтамашыне "Опель" знайшлі і канфіскавалі 25 кілаграмаў сумесі насення маку і макавай саломкі.

А ў Мінску праз два дні затрымалі 27-гадовага мужчыну. У яго знайшлі амаль пяць грамаў метамфетаміну, 400 грамаў высушанай марыхуаны.

Потым у яго аўтамашыне і ў доме бацькоў у вёсцы Пузыры Мядзельскага раёна знайшлі і канфіскавалі амаль 13 грамаў аналагічнага расліннага рэчыва.

**Паводле МУС Беларусі.**

УВАГА! ВЫШУК

# Шукаюць мужчыну, які ішоў у бок Вілейкі

СМАРГОНЬ, ВІЛЕЙКА

**Знік Алег Анатольевіч Уласенка. Ён нарадзіўся 29 жніўня 1964 года (50 год). Зарэгістраваны ў Смаргоні, жыў у Мінску.**



Каля 6 раніцы ў сераду, 3 чэрвеня, ён пайшоў з дому ў Мінску. Каля 15 гадзін гэтага ж дня яго бачылі ў вёсцы Укропенка Смаргонскага раёна. Ён ішоў у бок Вілейкі. З таго часу невядома, дзе ён.

**Прыкметы зніклага:** на выгляд 50 год, рост каля 175 см. Сярэдняга целаскладу, смуглы твар, чорныя валасы з сівізной.

На левым баку грудзей татуіроўка жанчыны з каронай, на правым – меч, на сярэднім пальцы правай рукі пярсцёнак. На левым перадплечны – ружа з надпісам "презрение (зверху малюнка) любви" (знізу малюнка).

**Быў апрануты** ў сінія джынсы, шэрую майку, якая ззаду ў шэразялёную клетку, чорныя туфлі.

Калі вы штосьці ведаеце пра абставіны знікнення А. А. Уласенкі, паведаміце па тэлефоне **(801592) 4-20-38** ці асабіста прыйдзіце ў смаргонскі Следчы камітэт.

**Аляксандр ГАНЧАРЫК,**
**старшы следчы Смаргонскага РАСК, маёр міліцыі.**

# Выпускнік 1975 года прысвяціў верш сваім аднакласнікам

МЯДЗЕЛ

**Выпускнікі Крывіцкай сярэдняй школы 1975 года выпуску збяруцца ў гэту суботу, 27 чэрвеня, у вёсцы, каб адзначыць 40 год з дня заканчэння школы.**




10 "Б" клас выпуску 1975 года. Мар'ян Якубовіч у сярэдзіне ў трэцім радзе. Класны кіраўнік – Франц Ракецкі – першы ў першым радзе.

Фота забяспечана Мар'янам ЯКУБОВІЧАМ.

Напярэдадні мерапрыемства да нас у рэдакцыю завітаў вучань таго 10 "Б" класа ўзору 1975 года **Мар'ян Якубовіч**, каб расказаць пра сваіх аднакласнікаў і запрасіць усіх школьных сяброў на сустрэчу.

Мар'ян Якубовіч быў сакратаром камітэта камсамола. І праз 40 год ён, успомніўшы сваю пасаду, узяў арганізацыю мерапрыемства ў свае рукі.

Патэлефанаваў некаторым аднакласнікам, з кім падтрымлівае сувязь і цяпер. Разбіў клас на пяцёркі і кожнаму з сяброў даў даручэнне сабраць сваю пяцёрку.

**– Вядома, самы пачэсны госць на нашым свяце будзе класны кіраўнік настаўнік матэматыкі Франц Юльянавіч Ракецкі, –**

кажа Мар'ян Якубовіч, – думаю, што ён, як заўжды, прыйдзе са сваім фотаапаратам, з якім не расстаецца ніколі.

На вялікі жаль, кажа Мар'ян Адамавіч, не будзе на сустрэчы заўсёды жыццярадаснай, поўнай творчых задум, класнага кіраўніка 10 "А" класа **Таісы Данілаўны Дудко (Рафеенка)**. Яна не дажыла да нашага свята. Затое на сустрэчы будзе яе сын, аднакласнік Мар'яна Адамавіча, **Канстанцін Рафеенка**. Ён прадоўжыў сямейную дынастыю настаўнікаў і цяпер у СШ №9 у Маладзечне выкладае гісторыю.

Не толькі Канстанцін Анатольевіч звязаў жыццё з настаўніцтвам. Яшчэ адна аднакласніца Мар'яна Якубовіча, **Людміла Яцына (Савіцкая)**, працуе настаўніцай.

Некаторыя былыя аднакласнікі сталі ваеннымі. Гэта **Мікалай Жарскі, Леанід Сотнікаў, Сяргей Пылінскі, Станіслаў Якубовіч.** Цяпер Станіслаў Якубовіч намеснік генеральнага дырэктара БЕЛАЗА ў Жодзіне.

**Васіля Пухальскага** і **Часлава Хацяновіча** лёс звязаў з медыцынай. Васіль працуе загадчыкам аддзялення Мазырскай бальніцы ў Гомельскай вобласці, Часлаў – галоўны ветэрынарны доктар Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці.

Многія з аднакласнікаў раз'ехаліся па свеце і цяпер жывуць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Украіне, Прыбалтыцы і ў Ізраілі.

**– Вельмі хацелася б, каб кожны знайшоў час прыехаць на сустрэчу. Мы абавязкова ўспомнім добрым словам нашага дырэктара Эльвіру Канстанцінаўну Дубаневіч.**

Ёй за 80 год, але і сёння яна не абмінае сваю школу, якую калісьці будавала. Успомнім і **Ліну Пятроўну Бенеш**, і **Ванду Якаўлеўну Лісічонак**, урокі беларускай мовы якой я ўспамінаю і сёння. Абавязкова ўспомнім нашага настаўніка фізкультуры **Яўгена Аляксеевіча Курмянёва.**

Напярэдадні сустрэчы, узрушаны ўспамінамі, Мар'ян Якубовіч напісаў вершы, якія прысвяціў кожнаму з аднакласнікаў, кожнаму з настаўнікаў. А ўсім, хто прыедзе на сустрэчу, пабачыць пачытаць гэты верш асабіста.

**Наталля ТУР.**

*І школа зноў збірае нас*
*Розных усіх такіх – і простых.*
*І тых, хто ўзышоў калісьці на Парнас,*
*Хто дасягнуў вышынь,*
*І тых, хто не шукаў у жыцці вяршынь.*

*Вяртаемся мы сёння усе сюды*
*І марым – адшукаліся б сляды,*
*Сляды тых хлопчыкаў, дзяўчынак,*
*З якіх многія ўжо маюць пенсійны адпачынак.*

*Хтосьці кажа сорак, а я кажу, што пяцьдзясят –*
*Тады мы выйшлі ўсе на школьны старт.*
*І стартанулі, і пабеглі, і пайшлі*
*І вось сягоння пяцьдзясят – як першы раз*
*у школу мы прыйшлі.*

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Чытачка "РГ" Алеся Клімовіч перадала мячык выхаванцу школы-інтэрната

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля публікацыі "РГ" пра тое, як рэдакцыя зладзіла свята ў школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннямім зроку, адгукнулася неабыякавая чытачка.**

Праз сацыяльныя сеткі маладзечанка **Алеся Клімовіч** звязалася з журналістамі: "**Жэня** задумаўся, якое ў яго жаданне. Падумаўшы, сказаў, што мячык і ровар..." Мячык – гэта дасягальная мара. А які трэба?"

І ўжо праз некалькі дзён маладая жанчына прыйшла ў рэдакцыю "РГ" з мячыкам і папрасіла перадаць Жэню.

У школе-інтэрнаце мы ўручылі мячык Жэню ад Алесі Клімовіч. Ён падзякаваў і сказаў, што будзе берагчы падарунак.

**Зоя ХРУЦКАЯ,**
**Наталля ТУР.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Жэня ўзяў мячык са словамі: "Я буду яго берагчы".

ПРАЕКТЫ

# "Нарачанская рэспубліка" перамагла на міжнародным фестывалі

МЯДЗЕЛ

Міжнародны фестываль тэрытарыяльнага маркетынгу і брэндынгу OPEN прайшоў у Мінску 4 - 6 чэрвеня.

Працы ўдзельнікаў ацэньвалі лепшыя прафесіяналы з Беларусі і краін бліжняга ці далёкага замежжа. Геаграфія конкурсу сягала ад Якуцыі да Латвіі. На конкурс заявілі 39 прац.

Сярод студэнцкіх у намінацыі "Маркетынг тэрыторыі" перамог праект "Нарачанская рэспубліка". "РГ" пісала пра гэты праект, які стварыла праектная студэнцкая каманда "5+1".

Конкурс прынёс студэнтам не толькі перамогу, але і цікавыя прапановы.

– Пасля міжнароднага конкурсу сталі паступаць прапановы аб прасоўванні праекта, а таксама аб дапамозе з яго рэалізацыяй. Інвестары ацанілі "Нарачанскую Рэспубліку" як патэнцыйны ўнікальны турыстычны комплекс Беларусі, – расказвае адна з удзельніц каманды **Алена Гілеўская**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# Рамяству навучыла жонка, ці Паспрачаўся на каньяк

## Майстры са свята ў Камарове расказваюць пра свае работы

МЯДЗЕЛ

**На свята ў Камарове, якое адбылося 20 чэрвеня, з'ехаліся майстры з ўсёй Беларусі. Яны прывезлі з сабой гіганцкія грыбы, разнастайныя кошыкі, упрыгажэнні для дзяцей і дарослых, тканыя паясы і бранзалеты з бісеру, тапачкі і шкарпэткі з авечай воўны, мёд, вырабы з гліны і шмат чаго іншага.**



Фота Наталлі ТУР.

На свяце ў Камарове можна было ўбачыць паляну грыбоў. Шкада толькі, што былі неядомыя. Аднак прыгажосці вашаму саду такія баравікі нададуць.

**Лізавета Чырвонцава** з Маладзечна прывезла на свята магнiцiкi, майкі з выявай выцінанкі. Рабіць выцінанку Лізавету навучыла мама.

– Выцінанка – адметны від мастацтва, – упэўненая яна. – Кожная выява нясе пэўны сэнс, аберагае чалавека. Над кожнай работай працуе майстар, таму ўкладае і сваю энергетыку ў гэту справу.

Жанчына адзначае, што традыцыйная выцінанка па часе робіцца нядоўга, каля гадзіны. Карпатлівая праца – выцінанка, якая спалучае традыцыйнасць і сучаснасць.

– Напачатку трэба прыдумаць сюжэт. Ён можа спалучаць сны, казачную тэматыку, несці пэўны сімвал, напрыклад, кахання, дабрабыту, – тлумачыць майстрыха. – Затым можна прыступаць да эскізаў і толькі пасля рабіць саму выцінанку.

Лізавета Чырвонцава гаворыць, што цяпер многія мастацтвазнаўцы адзначаюць адраджэнне, цікавасць да выцінанкі.

Вядомая фірма беларускіх вырабаў замовіла ў Лізаветы сюжэт выцінанкі, таму ў хуткім часе кожны ахвотны зможа набыць сабе модны від адзення – выцімайку.

### Прайграў скрыню каньяку – зрабіў першы выраб

**Алег Шамро** з Аршанскага раёна парадаваў кірмаш сувенірамі з бяросты. Гэтай справай ён займаецца 19 гадоў. Уся пачалося з таго, што мужчыну брат з Урала прывёз вавёрачку, зробленую з бяросты:

– Ён спытаў мяне, ці магу я зрабіць такую самую. Паспрачаліся на скрыню каньяку.

На наступны год брат прыехаў і спытаўся, ці зрабіў Алег вавёрачку.

> – А я і забыўся на гэта, – смяецца майстар, – прыйшлося бегчы ў магазін, каб аддаць доўг. З таго дня зрабіць вавёрачку стала справай прынцыпу, паспрабаваў – атрымалася.

### Бярэ адпачынак, каб нарыхтаваць матэрыял для вырабаў

Кветкі і кампазіцыі з саломкі можна было знайсці ў **Людмілы Міжыгурскай**. Жанчына працуе майстрам-аздабляльнікам у раённай бібліятэцы ў Астраўцы.

– Усё пачалося з таго, што паехала на курсы па лозаплященні, – радасна расказвае майстрыха. – І так захапілася гэтай справай, што ездзіла на курсы шэсць разоў.

Для вырабаў жанчына выкарыстоўвае кукурузу, лён, жыта. На адну кампазіцыю ідзе дні два.

– Часам сею жыта ў двары, бяру ў брата, – дзеліцца прамудрасцю справы жанчына. – Матэрыял нарыхтоўваю з лета, нават бяру адпачынак, каб усё паспець. Трэба не толькі нарыхтаваць матэрыял, але і падстрыгчы кожную саломку, пасушыць, пасартаваць – работы вельмі шмат.

Раней майстрыха выраблялa куфры, затым перайшла на кветкі і кветкавыя кампазіцыі.

### Як жаніўся, так і пачаў займацца бондарствам

Бондар з Маладзечна **Аляксандр Странкоўскі** прывёз на кірмаш пляшкі, маслабойкі, бочачкі.

Мужчына займаецца справай ужо 23 гады. Навучыў гэтаму цесць.

– Як ажаніўся, так і пачаў мяне цесць вучыць бондарскай справе, – расказвае майстар. – Ён быў вядомым майстрам з вёскі Бонда на Мядзельшчыне, тачыў калёсы, рабіў бочкі. З таго часу і я захапіўся гэтай справай.

У маладзечанскага бондара ёсць вырабы з ядлоўцу, дубу, ліпы, лістоўніцы. Але перш чым пачаць справу, трэба нарыхтаваць сыравіну: ядловец нарыхтоўвае сам, дуб заказвае на прадпрыемствах. Пасля дрэва трэба высушыць, раскалоць, пасля пачынаецца ручная работа з ім. У майстра ёсць вырабы, якія ён пачаў рабіць гадоў пяць таму. Драўляны выраб патрабуе шмат часу, трэба, каб ён высах.

Смецця і пілавіння шмат пасля, але жонка майстра з разуменнем ставіцца да гэтага.

– У хаце ж ад маёй справы і капейка нейкая з'яўляецца. Чаго ёй сварыцца – кажа ён?

Дома ў Аляксандра Странкоўскага многае зроблена з дрэва.

– Бярозавы сок альбо квас ставім у дубовыя бочкі, агуркі солім у бочцы з ядлоўцу – атрымліваюцца нашмат смачнейшыя, чым у слоіках, – запэўнівае майстар.

### Ткаць навучыла жонка

**Вітольд Малютка** з вёскі Камень Валожынскага раёна займаецца ткацтвам 34 гады. Навучыла гэтай справе жонка.

– Калі жонка ткала, мне заўсёды было цікава, як гэта ў яе атрымліваецца. Спачатку назіраў, потым папрасіў навучыць мяне. Яна з радасцю пагадзілася, – расказвае пра свой занятак майстар. – Пачалі займацца гэтай справай разам.

Кросны заказвалі ў Старых Дарогах. Дома ў мужчыны ёсць яшчэ і кросны маці, яны нашмат шырэйшыя. Ніткі для вырабаў мужчына выкарыстоўвае паўшарсцяныя альбо льняныя, але галоўнае, каб яны былі моцныя і не рваліся падчас працы. Узоры прыдумвае самастойна.

> **Каб атрымаць двухметровы ручнік, мужчына працуе над ім восем гадзін.**

– Цяпер ручнікі каштуюць 350 тысяч. Аднак я прадаю яшчэ па старых цэнах – за 250 тысяч рублёў. Цяпер грошай у людзей няшмат, таму старая цана, – тлумачыць ткач.

Пытанню, колькі за гэты час выткаў ручнікоў, майстар здзіўляецца: "О, не ведаю нават, як і адказаць! Трэба лічыць тонамі, кіламетрамі!"

Мужчына тчэ таксама сурвэткі, камплекты сурвэтак з абрусамі.

**Наталля ТУР, Галіна СІНІЦА.**

**Больш фота на сайце**

Rh.by

**Цэны на вырабы ручной работы, якія можна было купіць у Камарове**

| | |
|---|---|
| Выцімайка (майка з выявай выцінанкі) | 180 тысяч рублёў |
| Магніцікі на халадзільнік | ад 15 да 70 (магніты з дрэва) тысяч рублёў |
| Упрыгажэнні (завушніцы, кальє, пярсцёнкі, бранзалеты) | ад 60 тысяч рублёў |
| Кошыкі | ад 100 тысяч рублёў |
| Тапачкі і шкарпэткі з авечай воўны | Дзіцячыя – ад 70 тысяч рублёў, на дарослых – ад 80 тысяч рублёў |
| Грыбы драўляныя – упрыгажэнне для саду | ад 20 да 150 тысяч рублёў |
| Драўляная мэбля (зэдлікі, падстаўкі для кветак) | ад 150 тысяч рублёў |
| Ручнікі | ад 250 тысяч рублёў |
| Кампазіцыі з кветак з саломы, кукурузы | 160 тысяч рублёў |

● АДПАЧЫНАК

# Як адпачываць людзям з розным тыпам тэмпераменту

МАЛАДЗЕЧНА

**Адпачынак прыносіць новыя ўражанні і дае новыя сілы, аднак не кожны задумваўся над тым, як правільна арганізаваць яго. Дапаможа гэта зрабіць веданне свайго тыпу тэмпераменту.**

Але напачатку трэба вызначыцца з тым, якія рысы характару адпавядаюць пэўнаму тыпу тэмпераменту. Вызначаюць чатыры тыпы тэмпераменту: сангвінік, халерык, меланхолік і флегматык.

## Вызначаем тып тэмпераменту

**Сангвінікі** – людзі рухомыя, уражлівыя і жыццярадасныя. Яны хутка бяруцца за розныя справы, але гэтак жа хутка забываюцца на іх і пераключаюцца на новае. Без цяжкасцяў наладжваюць стасункі з людзьмі. З лёгкасцю забываюцца на спрэчкі і прымірэнні. Іх эмацыйныя перажыванні суправаджаюцца багатай мімікай. Часта спяшаюцца з рашэннямі многіх пытанняў.

**Халерыкі** – людзі адначасова запальчывыя і адходлівыя. Іх пачуцці рэзка змяняюцца – яны глыбока перажываюць як радасць, так і смутак. Рухі халерыкаў імклівыя, часта рэзкія. Людзі з такім тыпам тэмпераменту вельмі актыўныя і энергічныя.

Для **меланхоліка** характэрны пануры і нават змрочны настрой. Часта такія людзі ўражлівыя, хваравіта адносяцца да знешніх абставін, ім цяжка перажыць жыццёвыя цяжкасці.

Нярэдка меланхолікаў адрознівае стоенасць і нетаварыскасць. Пачуцці іх аднастайныя. Рухі такіх людзей марудныя, стрыманыя, яны не маюць цвёрдасці ў сваіх дзеяннях.

Пачуцці і настрой **флегматыкаў** змяняюцца вельмі марудна, гэта спакойныя людзі. Яны надзвычай рэдка выходзяць з сябе. І амаль нерэальна ўбачыць такіх людзей вельмі ўзрушанымі. Ад флегматыкаў вы не дачакаецеся хуткіх дзеянняў – яны марудныя і вялыя. Мова іх ціхая, міміка аднастайныя і не суправаджаецца красамоўнымі рухамі.

Яны доўга і грунтоўна ўсё абдумваюць, прынятыя рашэнні рэалізуюць спакойна і не адступаюць ад задуманага. Такія людзі з цяжкасцю пераключаюцца на новыя віды дзейнасці.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Каб адпачынак сапраўды атрымаўся, вазьміце з сабой добры настрой – і тады адпачынак пройдзе на "выдатна".

## Як правільна выбраць адпачынак

У кожным чалавеку прысутнічае своеасаблівае змяшэнне тэмпераментаў, але варта звярнуць увагу на перавагу пераліčаных характарыстык.

Калі вы вызначылі ваш тып тэмпераменту, можам пераходзіць да выбару адпачынку, які падыходзіць менавіта вам.

Для сангвініка падыдзе адпачынак, які падорыць мноства разнастайных падзей і пазітыўных эмоцый. Ім лепш адпачываць у экзатычных краінах, напрыклад, Інданезіі, Новай Гвінеі, Нікарагуа. Яркія моманты адпачынку прывядуць сангвініка ў дзіцячае захапленне.

Людзям з такім тыпам тэмпераменту спадабаецца праводзіць час у экскурсіях, даследуючы новыя месцы, чым пасіўна адпачываць на пляжы.

**Сангвінік зможа адчуць сябе адпачыўшым і расслабленым, калі атрымае новыя эмоцыі і будзе цалкам знясілены фізічна. Для адпачынку ім часам дастаткова выхадных.**

Для флегматыкаў пажадана, каб адпачынак быў спакойны і размераны, у іншым выпадку яны не адпачнуць. Важным застаецца мінімум кантактаў і дзеянняў. Людзям з такім тыпам характару падыдзе адпачынак без прыгод, спа-курорты, паход у грыбы ў адзіноце. Але вярнуцца з адпачынку флегматыкам трэба загадзя, каб адаптавацца перад выхадам на работу.

Для халерыкаў падыдзе актыўны адпачынак з частай зменай заняткаў. Гэта можа быць дайвінг, альпінізм, горныя лыжы, конныя прагулкі. Халерыкам ні ў якім разе не падыдзе адпачынак на пляжы з плэерам у вушах.

**Людзі з такім тыпам тэмпераменту не ўмеюць доўга адпачываць, таму для аднаўлення сіл дастаткова і тыдня.**

Творчай душы меланхоліка падчас адпачынку трэба натхненне. Рукадзелле, ёга, калекцыяніраванне дапамогуць адысці ад турбот і пагрузіцца ў свае думкі.

Для адпачынку ім трэба выбіраць месцы з прыгожымі пейзажамі, якія будуць натхняць на напісанне кнігі альбо стварэнне карціны. Падыдуць месцы, якія дадуць глебу для фантазіі і новых ідэй для творчасці.

Але галоўнае, калі плануеце адпачынак, арыентавацца на свае перавагі і захапленні, прыслухоўвацца да ўнутраных пажаданняў.

Будзьце ўпэўненыя – ваша сэрца дакладна падкажа, як трэба адпачыць. І адпачынак прынясе многа прыемных эмоцый і запомніцца надоўга.



**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг Маладзечанскіх электрасетак.**



Фота bestuzor.com.

● САКРЭТЫ ЖЫЦЦЁВАГА ПОСПЕХУ

# Правілы выбару касметыкі

*Гавораць, у Францыі жанчыны трацяць на касметыку больш, чым дзяржава на армію. Але ў іх і перамог больш.*

Яніна Іпахорская, пісьменніца, мастачка, журналістка.

**Існуе стэрэатып, што добрая касметыка мусіць быць дарагой. З аднаго боку, у гэтым ёсць частка праўды.**

Для якаснага прадукту патрэбны якасныя інгрэдыенты і добрая ўпакоўка. Часта ўпакоўка і брэнд забіраюць большую частку цаны прадукту. Але гэта няправільна, хаця і каштуе немалых выдаткаў фірме-вытворцы.

З іншага боку, арыентуючыся ў складзе касметыкі і ведаючы правілы яе выбару, можна знайсці цудоўны якасны сродак.

## Як выбраць касметыку для догляду

Найперш трэба паглядзець на тэрмін прыдатнасці тавару.

Калі купляеце касметыку для догляду за скурай, лепш выбіраць тую, што з натуральным складнікам.

Якасная касметыка не мае ярка выражанага паху і моцных аддушак. Вытворцу няма чаго хаваць за моцным пахам. Натуральны прадукт мае лёгкі кветкавы ці аптэчны пах і пастэльнае адценне.

Калі выбіраеце касметыку для догляду за скурай, лепш браць сродкі аднаго брэнду. Так яны дакладна прыжывуцца адно з адным і павысяць эфектыўнасць выкарыстання. І, вядома, выбіраць касметыку трэба пад свой тып скуры.

## Як выбраць дэкаратыўную касметыку

З выбарам дэкаратыўнай касметыкі крыху складаней, таму што акрамя складу трэба паспяхова выбраць адценне сродку. На дапамогу прыйдуць тэстары і люстэрка.

Калі выбіраеце танальны крэм ці пудру, паспрабуйце адценне на мяжы падбародка і шыі ці на скуле. Адбярыце 2-3 адценні, найбольш блізкія да колеру скуры, і лёгкімі мазкамі нанясіце на твар. Бярыце той сродак, які найменш бачны на скуры.

Каб абраць румяны ці цені для век, нанясіце іх сабе на руку і крыху патрыце другой рукой. Гэта дапаможа ацаніць, як хутка і лёгка касметыка можа сцерціся. А таксама пакажа, як колер выглядае на скуры.

Выбраць якасную памаду ці бляск для вуснаў дапаможа тэстар. Трэба толькі зняць сурвэткай верхні слой перад выкарыстаннем. Добрая памада ляжа роўным слоем без падкрэслівання трэшчынак і белага налёту паміж вуснамі.

Туш падбірайце такога тыпу, якога эфекту ад яе чакаеце.

Няхай ваша прыгажосць прыцягвае поспех!



**Юлія ФІЛІПОВІЧ, касметолаг**



Фота Наталлі ТУР.

Артысты з В'етнама выконваюць танец у гонар ураджаю.

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Упершыню прайшлі дні в'етнамскай культуры ў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

**19 чэрвеня ў Палацы культуры адбыўся канцэрт у межах дзён в'етнамскай культуры ў Беларусі.**

– Сіньчао! – раз-пораз чуецца ў Палацы культуры. Гэта прадстаўнікі в'етнамскай дэлегацыі вітаюцца з усімі, каго сустрэнуць за кулісамі.

Пагутарыць з артыстамі складана, бо многія размаўляюць толькі па-в'етнамску.

Аднак намеснік генеральнага дырэктара дэпартамента міжнароднага супрацоўніцтва Міністэрства культуры, спорту і турызму В'етнама **Ле Но Дзінь** прызналася, што калісьці вучылася ў Маскве і рускую мову ведае добра.

Ле Но Дзінь расказаў "Рэгіянальнай газеце", што дні культуры В'етнама праходзяць у Беларусі ўпершыню. Артысты з В'етнама, дарэчы, многія з іх народныя і заслужаныя, прадставілі маладзечанскім гледачам песенную і танцавальную культуру розных частак В'етнама.

– Культуры ў нас вельмі розныя, а вось людзі падобныя. І ў вас, і ў нас народ вельмі добразычлівы, ветлівы. Вельмі хочацца, каб в'етнамцы і беларусы сталі блізкімі сябрамі.

Ле Но Дзінь запрасіў усіх наведаць В'етнам, каб на свае вочы пабачыць іх краіну:

– У нас, канешне, прырода не такая. Мы ехалі па вашай краіне і адзначалі, што такую прыгажосць мы бачылі толькі на карцінах. Затое ў нас цёпла ўвесь год. І берагавая лінія тры тысячы кіламетраў.

На пытанне, што больш за ўсё запомнілася ў Беларусі, Ле Но Дзінь адказаў:

– У вас вельмі смачны боршч, я такога, калі вучыўся ў Маскве, не еў. А вось беларусам я параіў бы пакаштаваць наш суп – фо. Гэта суп з локшынай, у які пры сервіроўцы дадаюць ялавічыну або курацыну, часам кавалачкі смажанай рыбы або рыбныя шарыкі.

**Гэты суп асабліва карысна есці жанчынам, каб быць прыгожымі.**

У канцэртнай праграме, якую ўбачылі жыхары "Малашэшэн" (так назваў горад Ле Но Дзінь), артысты з В'етнама прадставілі 15 канцэртных нумароў. Многія песенныя нумары ўключаны ЮНЭСКА ў спіс сусветнай нематэрыяльнай спадчыны.

Гледачы ўбачылі дэманстрацыю традыцыйнага адзення В'етнама "Аозай".

Для ўсіх аматараў інструментальнай музыкі, артысты сыгралі сола на такіх інструментах, як Ны, Дангуэт, Данбау, Трынг.

Данбау вельмі цікавы інструмент тым, што ў ім усяго адна струна. І, калі глядзець на ігру на гэтым інструменце з залы, здаецца, што музыкант кранае толькі паветра, а не датыкаецца да струны.

Сюрпрызам для беларускіх гледачоў стала выкананне песні "Маладосць мая – Беларусія" спявачкамі **Буй Тхі Туй** і **Куэ Тхыюнг**.

Хаця Ле Но Дзінь і сказаў, што паміж беларусамі і в'етнамцамі шмат агульнага, розніца ўсё ж была заўважная. Ні адзін з выканаўцаў не пайшоў са сцэны без кветак, якія прынеслі артыстам удзячныя гледачы – мясцовыя в'етнамцы. Успомніце, калі вы бачылі, каб на канцэртах нашых зорак гледачы адорвалі артыстаў безліччу кветак.

Што ж датычыцца музычных нумароў, то тут, як кажуць, лепш адзін раз убачыць. Таму запрашаем вас на сайт rh.by. Слухайце, глядзіце і здзіўляйцеся.

**Наталля ТУР.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Уладальніца Гран-пры Кацярына Гарашчанка, кіраўнік аркестра Сяргей Гарбуз, цымбалістка Анжаліка Мілашэвіч.

МУЗЫКА

## Беларуска пакарыла фінаў уменнем "танцаваць" на цымбалах

МАЛАДЗЕЧНА

**Кацярына Гарашчанка настолькі эмацыйна іграе на інструменце, што за харызму і высокае выканальніцкае майстэрства дзяўчыну ўзнагародзілі Гран-пры на міжнародным конкурсе "Фестываль скандынаўскіх сталіц".**

Першае месца ў конкурсе атрымаў аркестр беларускіх музычных інструментаў пад кіраўніцтвам выкладчыка музычнага каледжа імя Агінскага **Сяргея Гарбуза**. Аркестр з Маладзечна стаў лепшым сярод калектываў, а адна з яго удзельніц, Кацярына Гарашчанка, – сярод сольных выканаўцаў.

Фестываль ладзілі напрыканцы вясны ў горадзе Ямся ў Фінляндыі. Выступалі ўдзельнікі з Расіі, Узбекістана, Фінляндыі, Беларусі.

– Наша выступленне было самае яркае, – адразу адзначае Сяргей Гарбуз. – Мы як толькі цымбалы дастанем, то замежнікі тут жа дастаюць фотаапараты і тэлефоны, каб зняць. Для іх гэта дзіўны інструмент.

### "Мама плакала гадзіну"

Гран-пры на гэтым конкурсе даюць вельмі рэдка. Каця Гарашчанка сёлета заняла трэцяе месца на рэспубліканскім конкурсе выканаўцаў на народных інструментах імя Жыновіча, што дазваляе ёй паступіць без экзаменаў у Акадэмію музыкі.

– Каця – прыма аркестра, – распавядае кіраўнік. – Яна вельмі эмацыйная дзяўчынка, проста жыве музыкай. Кожны матыў прайграе ў рухах. На яе ігру можна глядзець без гуку, і ўсё роўна адчуеш музыку.

Кацярына прыехала вучыцца ў Маладзечанскі музычны каледж са Смалявічаў.

– У аркестры не столькі адказнасці, як пры сольным выкананні, – дзеліцца Кацярына. – Я так адчуваю музыку, што не магу сядзець за цымбаламі роўна, не варушачыся. У мяне сапраўды нібы танец атрымліваецца. А калі даведалася, што маё выступленне ацанілі, вядома, плакала. Гэта мой першы Гран-пры. Калі пазваніла праз інтэрнэт маме, яна ўвогуле гадзіну плакала.

Разам з Кацяй у сола выступала **Анжаліка Мілашэвіч**, якая родам з Ашмянаў. Кіраўнік называе дзяўчынку памочніцай першай прымы, а на конкурсе яна заняла другое месца.

### Трэніравацца павінен нават лепшы

Сяргей Гарбуз аркестрам кіруе пяць год.

– Каб дасягнуць добрых вынікаў, музыкант мусіць займацца штодзень, – упэўнены ён. – Нават наш саліст **Барыс Харэвіч** займаецца па пяць гадзін на дзень, хаця ўжо дасягнуў звання лепшага гарманіста Беларусі. А ў Маладзечне я застаўся найперш таму, што тут надзвычай дружны калектыў. Працавалі пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі** – проста непараўнальна.

### Праз мора на круізным лайнеры

Аркестр удзельнічаў у конкурсе другі раз. Налета музыканты збіраюцца выстаўляць сваю кандыдатуру на званне народнага калектыву.

Падарожжа заняло 11 дзён. Змаглі і ў конкурсе перамагчы, і павандраваць. Балтыйскае мора пераплывалі двойчы, пакаталіся на круізным лайнеры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СПАБОРНІЦТВЫ

## Ляснік з Куранца – лепшы вальшчык лесу

ВІЛЕЙКА

18 чэрвеня прайшлі абласныя спаборніцтвы вальшчыкаў лесу "Лесаруб-2015".

19 лясгасаў вобласці прадставілі свае каманды. У кожнай было трое вальшчыкаў лесу, двое машыністаў фарвардэра, аператар гідраманіпулятара на сартыментавозе.

**У выніку каманда Вілейскага доследнага лясгаса ў агульным заліку заняла другое месца.**

Лепшыя вынікі сярод вальшчыкаў паказаў **Валеры Дуровіч**, ляснік Куранецкага лясніцтва. Пасля яго – майстар лесу Ільянскага лясніцтва **Міхаіл Забаронак** і вальшчык Куранецкага лясніцтва **Мікалай Ярошык**.

Валеры Дуровіч у асабовым заліку заняў другое месца па валцы лесу і трэцяе па абрэззы галін.

У эстафеце вальшчыкаў лесу вілейская каманда перамагла. За першае месца ўдзельнікаў узнагародзілі.

**Таццяна АНІШЧЫК, намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце.**

У ДАРОЗЕ

# Аўтаспыншчыца: "Жыццё і ёсць дарога, стаяць на месцы – злачынства"

МАЛАДЗЕЧНА

**У дарозе многае здараецца: табе могуць бескарысліва дапамагчы, калі ты нічога не маеш у кішэні, гаспадар спаць на падлозе, а табе прапанаваць канапу, бывае, ёсць пагроза быць згвалтаванай. Пра сваё захапленне аўтаспынам расказвае Ганна Дзмітрыева з Віцебска.**

Яна распрацоўвае рэкламу. Яе будучая спецыяльнасць – спецыяліст па сувязях з грамадскасцю. Дзяўчына цікавіцца гісторыяй, займаецца ёгай, любіць сабак, таму марыць займацца кіналогіяй. Захапляецца падарожжамі аўтаспынам. Была ва Украіне, у Малдове, Расіі, Грузіі, Турцыі, Арменіі, Азербайджане, Польшчы, Літве, Латвіі.

## У падарожжа бярэ напалову пусты заплечнік

– Падчас экзамену па рускай мове я з сяброўкай выканала ўсе заданні, пачалі гутарыць, – узгадвае дзяўчына. – Было спякотна – сама сабой прыйшла ідэя з'ездзіць на возера. Узнікла пытанне, як падарожнічаць без грошай. Сяброўка прапанавала ехаць аўтаспынам. Так паехалі на возера, якое знаходзіцца ў 30 кіламетрах ад Віцебска. Назад прыехалі толькі праз тры дні. За гэты час пабывалі на трох азёрах і ў шмат якіх вёсках.

Пасля падарожжа дзяўчына зразумела, што так можна вандраваць і на далёкія адлегласці.

Як лічыць аўтаспыншчыца, падрыхтоўка да падарожжа – адзін з самых цікавых заняткаў, бо можа заняць некалькі дзён або гадзіну.

Калі едзе на некалькі месяцаў, бярэ заплечнік на 60 літраў. Пры гэтым ён напалову пусты, потым напаўняецца ежай і падарункамі, якія атрымлівае падчас падарожжа. У заплечніку рэчы, як і для звычайнага паходу. У падарожжа на некалькі тыдняў па Польшчы, Літве і Латвіі брала маленькі заплечнік, бо не было палаткі і спальніка.

У вандроўку на адзіндва месяцы бярэ не больш за чатыры з паловай мільёны. І то трэцяя частка грошай застаецца.

**– Чаму менавіта аўтаспын, а не дызель, напрыклад?**

– У цягніку адчуваю сябе быццам Ганна Карэніна: там спякотна альбо холадна, нейкія "вар'яты" побач, якія спрабуюць табе нешта даказаць. Час цягнецца вельмі марудна, едзеш павольна – здаецца, скокнуў бы, каб пазбавіць сябе ад гэтага катавання. Калі без жартаў, адчуваю смаўжом у кансерваванай бляшанцы. Але часам дызелі – добрая рэч.

**– Як родныя ставяцца да тваіх вандровак?**

– Вельмі хвалююцца за мяне, не магу сказаць, што маё захапленне ім падабаецца. Адна справа ехаць аўтаспынам з Мінска да Віцебска. Калі б бацькі ведалі, што еду з Грузіі да Беларусі праз Азербайджан, Дагестан і Чачню, пасівелі б за некалькі дзён. Але па-іншаму не зробіш – я не магу не вандраваць, яны не могуць не хвалявацца.



Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ.

Ганна Дзмітрыева падчас падарожжа аўтаспынам па Алтаі. Гэта ёй трэба, каб адпачыць, паглядзець на сваё жыццё збоку, вырашыць, як жыць далей.

## У Дагестан лепш ехаць з хлопцам

У Каспійску, Дагестан, дзяўчыну ледзь не згвалцілі два разы.

– Каля ўзбочыны страшна было ставіць палатку, таму паехала з адным з кіроўцаў. Мужчына прапанаваў застацца ў яго – ён збіраўся сысці да знаёмай. Вырашыла – так будзе бяспечней. Аднак ён вярнуўся дамоў, выпіў піва і звярнуў увагу на мяне, – з жудасцю расказвае дзяўчына. – Адчула небяспеку, таму збегла. Мужчына на развітанне крычаў: "Ідзі, ідзі, там цябе абавязкова нехта згвалціць!" Апоўначы сустрэла дзяўчыну і хлопца. Яны пазвалі на гарбату, потым паказалі месца ў парку, дзе можна паставіць палатку.

Не паспела Ганна легчы ў спальнік, як адчула, што нехта свеціць ліхтарыкам і лезе ў палатку.

– Расплюшчваю вочы – бачу перад сабой мужчыну гадоў 30-ці, які пачынае ў грубай форме прапаноўваць сэкс, – расказвае дзяўчына. – Цудам перагнала яго, што павінен сысці – паслухаўся. Але а пятай раніцы палатка зноў адкрылася. На гэты раз дагестанец пачаў пагражаць, нават схапіў за руку, каб выцягнуць з палаткі. Я вырвала руку, пачала супакойваць мужчыну – пашанцавала.

Потым Ганна зразумела, трэба гаварыць пра сваю дзявоцкасць. Пачуўшы на словы, дагестанец прасіў прабачэння. Падарожніца адзначае, што большасць дагестанцаў вельмі гасцінныя. Але каб пазбавіць сябе ад усялякіх непрыемнасцяў, лепш ехаць з хлопцам.

## Гаспадар спаў на падлозе, мы – на канапе

З Чарнаўцоў ехалі па чатыры чалавекі, раздзяліўшыся па парах. У аднаго з кіроўцаў Ганна забылася торбу з двума пашпартамі, грашмі, тэлефонам і фотаапаратам. У якога – дакладна не памятала. Надзея была на апошняга кіроўцу, які пакінуў нумар тэлефона. Пачалі тэлефанаваць – выключаны. Кампанія вырашыла ехаць да Чарнаўцоў – кіроўца быў адтуль.

– Чалавек, які сустрэўся на нашым шляху, здзіўляўся такім прыгодам, – з усмешкай расказвае дзяўчына. – Купіў нам ежы, заехаў да знаёмых, якія нас пачаставалі. Тады мы жартавалі, не так і кепска без грошай і пашпарта.

У Чарнаўцах падарожнікі сядзелі на вакзале і тэлефанавалі кіроўцу. А палове другой ночы надзея іх амаль пакінула, а трэцяй гадзіне яе не засталося. Праз некаторы час кіроўца перэтэлефанаваў, прыехаў на вакзал.

– Чакала кіроўцу, як нікога іншага ў свеце, адчувала сябе Асоллю, што чакае карабля з пунсовымі ветразямі, – узгадвае аўтаспыншчыца. – Мужчына прыехаў, правёў экскурсію па горадзе. Прапанаваў заначаваць у яго. З-за нас ён спаў на падлозе – мы на канапе. Перад работай устаў раней, каб адвезці нас за горад у бок Малдовы, куды мы збіраліся.

Вандроўніца ўпэўненая, калі ўсё вакол доўгі час аднолькавае, паступова пачынаеш рабіць шмат якія рэчы машынальна і не заўважаеш, што жыццё праходзіць, ты стаіш на месцы. У ідэале жыццё і ёсць дарога, а стаяць на месцы – злачынства.

## Правілы аўтаспыну Ганны Дзмітрыевай

Не напрошваюся да кіроўцаў і вандроўнікаў.

Адмаўляюся ад алкаголю і іншых сумнеўных напояў.

Імкнуся выйсці з машыны да горада, калі дарога праходзіць праз яго – так эканомлю час.

Не падарожнічаю з тым, хто не падабаецца, – лепш разысціся, чым загубіць вандроўку.

Каб падарожнічаць адной, трэба мець моцныя нервы, чорны гумар і прагматызм. Калі гэтых рыс характару ў вас няма, лепш узяць з сабой хлопца.

Не спыняюся ў кіроўцаў, калі еду адна.

### Ганна Дзмітрыева пра Маладзечна

Калі дзяўчына ехала ў Маладзечна, магла сказаць пра горад тое, што едзе да сяброўкі, таму час пройдзе хутка і цікава.

– Маладзечна – адзін з гарадоў, які здольны паглынуць цябе на некалькі дзён сваім гарманічным спакоем і прыгажосцю, – дзеліцца пачуццямі Ганна. – Горад вельмі здзівіў мяне незвычайнымі помнікамі: дзяўчынай каля чыгуначнага вакзала, папараць-кветкай на плошчы, цэрквамі і касцёламі як у горадзе, так і за яго межамі. Не магу не ўзгадаць Траецкі касцёл у Беніцы. Гэта незвычайнае месца – над маленькай вёсачкай узвялічваецца стары закінуты касцёл, які не згубіў прыгажосці. Глядзіш на яго – ствараецца ўражанне, быццам дакранаешся да таямніцы. Унутры – быццам у сховішчы, з якога не хочацца выходзіць.

Ганна цікавіцца гісторыяй Другой сусветнай вайны, таму шукала ў горадзе нешта, звязанае з гэтай тэмай. Асаблівыя ўражанні былі ад мемарыяльнага комплексу "Шталаг-342". Маладзечна стала для дзяўчыны месцам, у якое хочацца вярнуцца.



Воля ТРУБАЧ.
E-mail: ydaroze@mail.ru.

НАВІНЫ

## Маладзечанцы разграмілі Верхнядзвінск – 7:1

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёмы тур чэмпіянату краіны па футболе ў другой лізе прынёс маладзечанцам чарговую перамогу, але з такім буйным лікам у сезоне ўпершыню.**

Ужо на чацвертай хвіліне матча гулец Маладзечна **Юры Бугай** забіў першы мяч з вуглавога. Не прымусіў сябе доўга чакаць і **Цімафей Ігруша**, які ўжо на 10 хвіліне зрабіў лік 0:2.

У першым тайме вызначыліся таксама і **Аляксандр Альховік**, і **Аляксандр Парфёнаў**, які аформіў дубль.

У матчы дублем вызначыўся і Цімафей Ігруша, які забіў свой другі мяч у другім тайме. Аўтар апошняга, сёмага, голу – **Ігар Талькоўскі.**

У другім тайме камандзе з Верхнядзвінска пашчасціла адквітаць адзін гол. Усе гледачы, што прысутнічалі на трыбунах, адзначылі гульню варатара маладзечанцаў – **Антона Шчэрбы**. Пра гэта расказаў і трэнер каманды **Віталь Казяк**:

– Антон ратаваў каманду ў самых неймаверных момантах! Яго расстрэльвалі ва ўпор, а ён адбіваў. Што датычыцца гульні ўвогуле, то бываюць такія дні, калі ў цябе складваецца ўсё, а ў саперніка нічога. Цяпер мы атрымоўваем вынікі з перадсезоннай працы. А тое, што мы займаем першы радок у табліцы, радуе, на жаль, толькі душу, а ніяк не кашалёк (смяецца). Расслабляцца рана, уся барацьба наперадзе.

Аднак без скандалу не абышлося. "Героем" яго стаў маладзечанскі нападаючы **Сяргей Космач**. Ён трохі апусціў шорты і агаліў заднюю паверхню сцягна, за што і атрымаў чырвоную картку.

Пра гэты інцыдэнт Віталь Казяк патлумачыў, што яны і самі не адсачылі той момант, калі суддзя палез у кішэню за чырвонай карткай.

– Сяргей паказаў Сашы Альховіку, што ў яго ўсё ў парадку, але шорты апусціў надта нізка. У яго дзеяннях суддзі разгледзелі неспартыўныя паводзіны ў дачыненні да партнёра па камандзе. Цяпер яму пагражае мінімум два матчы дыскваліфікацыі і грашовы штраф.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Чытачка Алеся Клімовіч перадала мячык выхаванцу школы-інтэрната Жэню**

Грэе душу, што ёсць такія цудоўныя людзі, як спадарыня Алеся! У такіх дробных учынках так шмат сардэчнасці хаваецца. ***Маладзечанка.***

**"РГ" зладзіла спартыўнае свята для дзяцей з парушэннямі зроку (Фота)**

Самі зладзілі, самі пафоткалі, самі сабе піяр зрабілі. Малайцы! ***Пастар.***

Зладзьце і Вы, ойча. Можа, і пра вас напішуць. Не пастар. Але і не авечка.

**Маладзечанцы разграмілі Верхнядзвінск – 7:1, а футбаліст Сяргей Космач у жарт агаліў сцёгны**

"Юры Бугай забіў першы мяч з вуглавога". Юра не забіваў з вуглавога. Каб такое адбылося, гэта, бадай, быў бы самы прыгожы гол сезона. Справа ў тым, што прамым ударам з вуглавога забіць неймаверна цяжка. І такое адбываецца вельмі рэдка. Бугай забіў ПАСЛЯ падачы вуглавога ў штрафную пляцоўку. Ён наляцеў на гэту падачу, быў першым на мячы і нагой у адзін дотык забіў яго ў сетку. ***Варатар.***

**"Я ў ратондзе, альбо Мы ўсе такія арыгінальныя": 100 фотаздымкаў маладзечанцаў у адным відэа**

Клас! Прыемная нечаканасць убачыць сябе на відэа! ***Ратонда.***

ЛІТАРАТУРА

# 10 кніг, якія дазволяць адчуць сябе беларусам

**Кожны перыяд гісторыі беларускай літаратуры прадстаўлены адметнымі асобамі.**

Вылучыць 10 з іх, пачынаючы ад Сімяона Полацкага, Францішка Скарыны і заканчваючы сучаснымі паэтамі, празаікамі, драматургамі, вельмі цяжка.

Згаданыя ніжэй 10 імёнаў – гэта, хутчэй, спроба назваць знакавых, хрэстаматыйных асоб у нашай літаратуры, творы якіх павінны ведаць кожны беларус. Па гэтай прычыне пабач з прозвішчам таго ці іншага пісьменніка знаходзіцца пераважна не адна, а некалькі назваў твораў (кніг).

1) Якуб Колас. "Новая зямля".
2) Янка Купала. "Курган", п'еса "Паўлінка", вершы "Мая малітва", "А хто там ідзе?", інш.
3) Максім Багдановіч. "Вянок".
4) Алаіза Пашкевіч (Цётка). "Скрыпка беларуская", "Хрэст на свабоду", інш.
5) Ян Баршчэўскі. "Шляхціц Завальня".
6) Іван Мележ. "Палеская хроніка".
7) Васіль Быкаў. "Альпійская балада", "Знак бяды", інш.
8) Уладзімір Караткевіч. "Дзікае паляванне караля Стаха", "Чорны замак Альшанскі", "Каласы пад сярпом тваім", інш.
9) Максім Танк. "Родная мова", "Беларусь", "Апала зорка, і на міг…", "AveMaria", "Завушніцы", інш.
10) Яўгенія Янішчыц. "Ты пакліч мяне, пазаві…", "У шуме жытняга свята", "Такой прысні, як яблыневы сад", інш.

Вядома, можна ўспомніць і іншых знакамітых асоб – такіх, як Уладзімір Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш., Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Янка Брыль, Янка Сіпакоў, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін.

**Дзмітры ПЯТРОВІЧ.**

## Чытайце па-беларуску і атрымлівайце падарункі

МАЛАДЗЕЧНА

Пераможцаў у гэтым конкурсе апантаных кнігай будзе тры.

Ладзяць яго Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "РГ".

Мы запрашаем ад 15 чэрвеня да 15 верасня завітваць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы. Яна часова месціцца ў бібліятэцы "Верасок" па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121.

Пераможцаў арганізатары конкурсу вызначаць у верасні. Іх чакаюць падарункі. Каб было прасцей выбраць кнігу, друкуем спісы лепшых на думку пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

**Падрыхтавала Таццяна ЗАКРЭЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання ЦРБ.**

ГАРАСКОП

**26 ЧЭРВЕНЯ-2 ЛІПЕНЯ**

**Авен.** Старайцеся як мага больш часу праводзіць на свежым паветры і пастаянна праветрывайце памяшканне, калі не можаце выбрацца за межы чатырох сцен.

**Цялец.** Чэснасць да самога сябе – гэта свабода. Будзьце чэсныя да самога сябе. Самападман – гэта асляпленне самога сябе.

**Блізняты.** Вы цяпер балансуеце паміж сямейным жыццём і адзінотай. І не ведаеце, што выбраць, таму што пабач з вамі зусім не ідэал. Аднак чаму б вам не паспрабаваць жыць разам? Сцерпіцца-злюбіцца – не проста словы, а жыццёвая мудрасць.

**Рак.** Адпачынак не за гарамі. Самы час адпраўляцца па магазінах за новым купальнікам і пляжным ручніком.

**Леў.** Каб змяніць сваё жыццё, даводзіцца рызыкаваць. Прыняцце абдуманых і рызыкоўных рашэнняў дапамагае нам расці. Часцяком рызыка – гэта добра.

**Дзева.** У бліжэйшыя паспрабуйце як след адаспацца і правесці інтэнсіўныя касметычныя працэдуры. І знайдзіце час на велапрагулку ці паездку на лецішча.

**Шалі.** На здароўі, асабліва на лёгкіх, вельмі негатыўна адбіваецца маркота, смутак, журба, нуда. У любой сітуацыі (у любой!) старайцеся захоўваць аптымістычны настрой.

**Скарпіён.** Што ні адбывалася б вакол, на ўсё глядзіце з аптымізмам. Памятайце: ад вашага погляду на сітуацыю шмат што залежыць.

**Стралец.** Праяўляйце гібкасць і старайцеся быць аптымістычнымі ў розных сітуацыях, тады вашаму шчасцю нічога не будзе пагражаць.

**Казярог.** Калі вы спрабуеце рабіць, як лепш, а атрымліваецца, як заўсёды, гэта знак таго, што вы не зусім разумееце, што, уласна кажучы, робіце. Не распыляйцеся, пастаўце сабе канкрэтную мэту. І добра абдумайце розныя варыянты яе дасягнення.

**Вадалей.** Калі што не атрымоўваецца – проста чакайце. Час усё расставіць па сваіх месцах і адкрые новыя магчымасці. Заўсёды верце ў тое, што ўсё будзе добра.

**Рыбы.** Жывіце адчуваннем, што хутка пойдзеце ў адпачынак. Гэта таксама прыемныя дні. Падумайце, што будзеце рабіць, куды паедзеце. А калі будзеце дома, то складзіце план, каб вы змаглі і адпачыць, і папрацаваць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Чорнае мора**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
26, 27, 28 чэрвеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, з 16 год)
26, 27, 28 чэрвеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
27, 28 чэрвеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Трылер "**Перавага**" (ЗША, Кітай, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
1 ліпеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Джон Уік**" (ЗША, з 16 год)
1 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "Галаваломка" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 чэрвеня, 1 ліпеня – у 14:00
28 чэрвеня – у 15:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер "**Разлом Сан-Андрыяс**" (3D, ЗША, з 16 год)
26 чэрвеня – у 18:30
27 чэрвеня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (2D, ЗША, 2015, з 16 год)
26, 27 чэрвеня, 1 ліпеня – у 21:00
28 чэрвеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Пінгвіняня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Паўднёвая Карэя, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
27 чэрвеня – у 12:30
21 чэрвеня – у 12:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (2D, Расія, 2015, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27 чэрвеня – у 19:30
28 чэрвеня – у 21:00
1 ліпеня – у 19:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
28 чэрвеня – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя, сямейны "**Галаваломка**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
26 чэрвеня – у 17:00 (55 000 рублёў)
27 чэрвеня – у 15:00 (30 000 рублёў)
28 чэрвеня – у 14:40
29 чэрвеня – у 18:40 (50 000 рублёў)
1 ліпеня – у 16:40 (30 000 рублёў)

Анімацыя, прыгоды "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 чэрвеня – у 12:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя "**Захавальнік Месяца**" (3D, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 чэрвеня – у 12:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
30 чэрвеня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 чэрвеня – у 19:20
27 чэрвеня – у 17:20
28, 30 чэрвеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Жахі "**Астрал 3**" (2D, ЗША, Канада, 2015, з 16 год)
27 чэрвеня – у 20:00
28 чэрвеня – у 17:00
29 чэрвеня – у 21:00
1 ліпеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (ЗША, 2015, з 16 год)
26, 27 чэрвеня – у 22:00 (50 000 рублёў)
28, 30 чэрвеня – у 19:00 (45 000 рублёў)
1 ліпеня – у 21:00

Прэм'ера! Фантастыка, баявік, прыгоды, трылер "**Тэрмінатар: Генезіс**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 ліпеня – у 17:10 (55 000 рублёў)
2 ліпеня – у 22:00 (60 000 рублёў)

Прэм'ера! Камедыя, музыка, драма "**Супер Майк XXL**" (ЗША, 2015, з18 год)
2 ліпеня – у 19:40 (45 000 рублёў)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Машыны казкі. Канёк-Горбунок у гасцях у казачніцы**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
27 чэрвеня – у 15:30 (12 000 рублёў)

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2013, без узроставых абмежаванняў)
26 чэрвеня – у 16:00 (15 000 рублёў)
28 чэрвеня – у 15:30 (20 000 рублёў)

Прыгоды "**Мост у Церабітыю**" (ЗША, 2006, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 чэрвеня – у 17:00 (20 000 рублёў)

Анімацыя "**Монстры на востраве**" (Японія, Канада, 2011, без узроставых абмежаванняў)
28 чэрвеня – у 17:30 (20 000 рублёў)

Прыгоды "**Пуцёўка ў жыццё**" (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 чэрвеня – у 18:00 (20 000 рублёў)

Фантастыка "**Пасвечаны**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 чэрвеня – у 21:00
27 чэрвеня – у 19:00
28 чэрвеня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**" (ЗША, 2014, з 18 год)
27 чэрвеня – у 21:00
28 чэрвеня – у 21:30 (35 000 рублёў)

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 чэрвеня, 2 ліпеня – у 16:00
1 ліпеня – у 15:00 (20 000 рублёў)

Фэнтэзі "**Вій**" (3D, Расія, 2014)
29 чэрвеня – у 19:00
30 чэрвеня – у 20:00
1 ліпеня – у 21:30
2 ліпеня – у 21:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 5 | | | 2 | |
| | | | 3 | | 6 | 4 | | |
| | | 9 | | | | 8 | | 5 |
| 4 | 9 | | | 7 | | | | 6 |
| | | 3 | 9 | | 8 | 5 | | |
| 5 | | | | 6 | | | 9 | 4 |
| 9 | | 1 | | | | 6 | | |
| | | 6 | 1 | | 9 | | | |
| | 3 | | | 8 | | | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар
+375 (29) 67-68-420,
на e-mail regionnews@rh.by
або пакінь каментар на
Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

### 27 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +14 | | +12 +19 | | +12 +21 | | +14 +18 | |
| | 737 | ↓ 6 | 737 | ↘ 5 | 738 | ↘ 2 | 738 | ↘ 5 |
| Вільня | +10 +16 | | +10 +19 | | +12 +20 | | +10 +19 | |
| | 748 | ↘ 4 | 747 | ↘ 4 | 746 | ↘ 1 | 747 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.40
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.11

Усход 16.35
Захад 2.00
Квадра 2




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +5,9 °С у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +30,3 °С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,7 мм у 1960 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Ці выпісваеце вы газеты?



**Надзея Малажавая, настаўніца, Маладзечна:**
– Пастаянна няма неабходнасці купляць альбо выпісваць газеты. Набываю іх, калі мне трэба знайсці нейкую пэўную інфармацыю альбо аб'яву. Навіны пераважна чытаю ў інтэрнэце, так пра ўсё даведваешся значна хутчэй.



**Кацярына Вяршыцкая, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Газеты выпісваюць мае бацькі, сама найбольш чытаю навіны ў інтэрнэце. Найперш цікаўлюся надвор'ем, знаёмлюся з тым, што адбылося ў нашай краіне, а тады за мяжой.



**Настасся Корсак, эканаміст, Маладзечна:**
– Так, мае бацькі выпісваюць газеты. Найперш пачынаю чытаць рубрыку "працуем", цікава, якіх спецыялістаў цяпер не хапае.



**Васіль Крэнць, штампоўшчык, Маладзечна:**
– Не выпісваем, купляем газеты. Найперш цікавіць тое, што адбываецца ў рэгіёне, таму абавязкова набываю "Рэгіянальную газету". Цікава і што адбываецца ў Маладзечне. Даведваемся пра навіны і з інтэрнэту.



**Анастасія Якуновіч, медсястра, Маладзечна:**
– Не, газет не выпісваем. Дазнаюся пра навіны з інтэрнэта, тэлебачання. На рабоце заўсёды ёсць газета, таму маю магчымасць чытаць і друкаванае слова. У першую чаргу шукаю навіны нашай краіны, эканамічныя і палітычныя.



**Віктар Рысік, студэнт, Вілейка:**
– Выпісваем тры газеты, сярод якіх і наша любімая "Рэгіяналка". Гэта вельмі зручна, адзін раз падпісаўся, і ведаеш, што ў любое надвор'е газета будзе ў паштовай скрыні. Найперш праглядаю першую паласу, знаёмлюся з анонсамі, а тады чытаю старонкі па чарзе.



**Алёна Емяльяненка, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Раней куплялі і выпісвалі газеты. Цяпер чытаем навіны ў інтэрнэце, так пра ўсё даведваешся значна хутчэй. Таксама слухаю навіны па тэлебачанні.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

- Якія песні папулярныя на сёлетнім фестывалі "Адна зямля"? Што неабходна спеваку, каб заваяваць Гран-пры? Як сустрэлі свята Ашмяны?

## ● УСПАМІНЫ

### Як па вёсках ездзілі яўрэі-анучнікі

МАЛАДЗЕЧНА

"Людцы добрыя, падыходзьце. Рэчы патрэбныя набывайце. А ўсе рызы мне здавайце!" Так зазываў да вазка-лаўкі стары яўрэй-анучнік з Радашкавічаў.

Старым, магчыма, ён і не быў, але такім здаваўся ад перажытага, бо цудам выжыў у вайну, калі яго супляменнікаў спалілі жывымі ў бліжэйшых мястэчках.

Пасля вайны ён ездзіў па вёсках і прадаваў посуд, гаршкі, што не заўсёды былі ў мясцовых крамах. Але каб набыць гэтыя рэчы, лавачніку, акрамя аплаты, трэба было здаць непатрэбнае адзенне. Убачыўшы знаёмую фурманку, спяшаліся да яе.

Старыя набывалі посуд і гаршкі. А мы, малыя жэўжыкі, цягнуліся да надзіманых шарыкаў і салодкіх ледзянцоў-пернікаў на палачках.

Старыя рэчы неслі ў напамін аб загубленых родзічах. Гэта падтрымлівала ў жыцці, не давала звар'яцець. І дапамагала жыць далей.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 26 (1052) 26.06.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 847. Падпісана ў друк у 9.00 25.06.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.